*«Сямёра смелых»: палітычны хіт сезона (стар. 2)*
*Няўлоўны Мірон аб'явіўся там, дзе яго не чакалі (стар. 4)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец "Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 40.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 362441

30 ліпеня 1996 г. | № 56 | Кошт свабодны

## Лукашэнка ўступіў з народам у селектарную сувязь

29 ліпеня грамадзяне Беларусі маглі назіраць па тэлебачанні сеанс адначасовай гульні, аб'яднаны з урокам масавага гіпнозу. У звычайнай для сябе ролі актора-маніпулятара выступаў Аляксандр Лукашэнка. У гэтай тэлевізійнай «мыльнай оперы» пад умоўнай назвай «Бітва з ворагамі за ўраджай» таксама прымалі ўдзел міністры, банкіры, у масоўках — кіраўнікі «вертыкалі».

Пастаноўка, якая афіцыйна называлася «Селектарная нарада прэзідэнта», як і варта было чакаць, ператварылася ў маналог аднаго акцёра. А.Лукашэнка, сярод іншага, паведаміў, што ў бліжэйшыя дні падпіша ўказ аб «стабілізацыі» становішча ў Рэспубліцы Беларусь, якім будуць уведзеныя меры «надзвычайнага функцыянавання». Відавочна, пасля гэтага «сувязь з народам» пачне ажыццяўляцца іншымі спосабамі.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

## «Арлоўскі прарыў» Шарэцкага

Спікер беларускага парламента Сямён Шарэцкі ў Дзень Незалежнасці накіраваўся з візітам у Арлоўскую вобласць Расіі, дзе правёў два дні ў кампаніі свайго калегі і сябра Ягора Строева.

Як вядома, старшыня Савета федэрацыі Расіі захаваў за сабой пасаду губернатара Арлоўскай вобласці, і таму ён прыняў высокага беларускага госця таксама як мясцовы гаспадар, а не толькі як парламенцкі дзеяч. Некаторыя беларускія аглядальнікі ўбачылі ў сустрэчы Шарэцкага са Строевым працяг тых крокаў, якія прадпрыняў старшыня беларускага парламента, каб паўплываць на прэзідэнта А.Лукашэнку. Асабістая падтрымка Ягора Строева сапраўды павялічвае шанцы Шарэцкага на падтрымку з боку Ельцына і, у выніку, на стрыманне Лукашэнкі.

Паездка С.Шарэцкага з амерыканскім паслом К.Ялавіцам у Навагрудскі раён перанесеная на чацвер.

**А.ПАЎЛОВІЧ**

# Дзень Незалежнасці

*У святочным шэсці і мітынгу ў Мінску ўдзельнічала (па розных ацэнках) ад 20 да 30 тысяч чалавек*

**На чале калоны дэманстрантаў ішлі С.Багданкевіч, Л.Баршчэўскі, Г.Бураўкін, Ю.Захаранка, Г.Карпенка, В.Палевікова, М.Статкевіч, Г.Таразевіч, Ю.Хадыка і іншыя вядомыя людзі. Маніфестацыя выглядала вельмі ўнушальна. Упершыню за шэсць год з дня абвяшчэння Дэкларацыі аб суверэнітэце на афіцыйнае свята Незалежнасці выйшла такая вялікая колькасць людзей. Публіка паводзіла сябе вельмі прыстойна, радавалася святу і сонцу, з энтузіязмам скандзіравала незалежніцкія і антыпрэзідэнцкія лозунгі. На мітынгу каля Палаца спорту адзінадушна быў прыняты зварот да Вярхоўнага Савета з патрабаваннем імпічменту прэзідэнта.**

*(Працяг тэмы на стар. 2)*



# «План ЦРУ»: аўтараў сенсацыі трэба шукаць у Мінску?

**Высокапастаўленыя асобы ў Расіі, Беларусі, ЗША і Польшчы абверглі сенсацыйнае паведамленне аднаго з лідэраў расійскай кампартыі Віктара Ілюхіна, які заявіў, быццам ЦРУ рыхтуе падрыўныя аперацыі супраць прэзідэнта Лукашэнкі.**

У чацвер 25 ліпеня на прэс-канферэнцыі ў Дзярждуме РФ **Віктар Ілюхін** (старшыня думскага камітэта па нацыянальнай бяспецы) падрабязна расказаў журналістам аб *«змове ЦРУ супраць Беларусі»*. Па словах Ілюхіна, група афіцэраў ЦРУ з 18 чалавек на чале з палкоўнікам Полам Гейбертам з 10 чэрвеня 1996 г. знаходзіцца ў Варшаве для падрыхтоўкі спецыяльнай падрыўной аперацыі ў Беларусі. Дзеля гэтага ў Мінску, Оршы, Віцебску, Магілёве ствараюцца забастовачныя цэнтры тыпу польскай «Салідарнасці». У перыяд з 1 па 9 жніўня забастовачныя камітэты павінны падняць першую хвалю палітычных і эканамічных страйкаў ва ўсіх буйных гарадах Беларусі. БНФ да гэтага часу павінен арганізаваць у Мінску дэманстрацыю-шэсце з удзелам прыкладна 10—30 тысяч чалавек. У ёй павінны ўдзельнічаць не менш як 200 баевікоў з украінскай УНА-УНСО для арганізацыі вулічнага процістаяння. У ходзе акцыі вулічнага процістаяння плануецца забойства аднаго ці двух лідэраў нацыянальнага руху Беларусі, якім адводзіцца роля пакутнікаў, а арганізатарам забойства будзе абвешчаны прэзідэнт Лукашэнка.

Заключнай часткай аперацыі павінна стаць пастаноўка пытання ў Вярхоўным Савеце Беларусі аб імпічменце прэзідэнта краіны. Ілюхін сказаў, што прыблізна з 50 дэпутатамі беларускага парламента вяліся папярэднія перамовы па гэтым пытанні. А з мэтай асвятлення вулічнай дэманстрацыі ў Мінску будзе падключана 14 агульнаеўрапейскіх, амерыканскіх і расійскіх СМІ. На гэтую акцыю выдзелена 254 тысячы долараў ЗША. Апагей плануемых аперацый павінен адбыцца 15—18 верасня бягучага года.

Крыніцы інфармацыі Ілюхін не назваў, заявіўшы, што гэта з'яўляецца тайнай камітэта Дзярждумы.

Ілюхінскі план па адхіленні прэзідэнта Лукашэнкі ад пасады настолькі праўдападобны, што калі замест «ЦРУ» напісаць «ФСБ», ён абсалютна не мяняецца. Толькі замест Варшавы лепш указаць Маскву ці нават Мінск і знайсці замену для палкоўніка Пола Гейберта...

«Адобрыў» план толькі палкоўнік **Замяталін**, які пацвердзіў у інтэрв'ю Беларускаму тэлебачанню, што *«заява Ілюхіна, бясспрэчна, з'явілася зусім невыпадкова»*. Намеснік кіраўніка адміністрацыі пачаў «рисовать картинку», даўшы зразумець, што вытокі ілюхінскага плана знаходзяцца ў Мінску.

Сапраўды, надта ж пахне кухняй прэзідэнцкай адміністрацыі. Вядома, што некаторыя члены каманды Лукашэнкі (кажуць, нават сам дзяржсакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман) дастаткова добра знаёмыя і цесна звязаныя з Віктарам Ілюхіным. На жаль, нам не ўдалося атрымаць каментар самога Шэймана; ягоны намеснік **Анатоль Тозік** таксама адмовіўся каментаваць заяву Ілюхіна, параіўшы звярнуцца непасрэдна да аўтара сенсацыйнага паведамлення.

Шэф беларускага КДБ **Уладзімір Мацкевіч** адзначыў, што *«для КДБ Беларусі не з'яўляецца сакрэтам факт знаходжання ў суседняй краіне супрацоўнікаў ЦРУ, якія знаходзяцца там у рамках двухбаковых пагадненняў па пытаннях арганізацыі ўзаемадзеяння спецслужбаў гэтых краін»*. Але генерал Мацкевіч не мае дадзеных аб правядзенні імі акцыі, накіраванай супраць Рэспублікі Беларусь. На думку шэфа КДБ, інфармацыя Ілюхіна *«надта праўдападобная, каб быць праўдзівай»*.

Тым часам беларускія палітыкі розных плыняў пачалі вызначаць дыягназ «захварэўшаму» старшыні камітэта Дзярждумы Віктару Ілюхіну. Найбольш дасціпнымі аказаліся **Станіслаў Багданкевіч** і **Дзмітрый Булахаў**, якія назвалі гэта *«бредом сивой кобылы»*, намеснік старшыні БНФ **Вінцук Вячорка** — *«палітычнай шызафрэніяй»*. А спікер **Сямён Шарэцкі** сказаў, што ілюхінскія інсінуацыі — гэта *«чушь без мягкого знака»*.

**Сяргей Калякін** упэўнены, што *«крыніцы Ілюхіна знаходзяцца ў Беларусі, а ягоная заява не ўзгаднялася з кіраўніцтвам расійскай кампартыі і зробленая ў традыцыях нямецкай прапаганды 30-х гадоў»*.

Намеснік старшыні БНФ **Юры Хадыка** лічыць, што *«Ілюхін адпрацоўвае беларускія грошы, якія перадаваліся на рахункі КПРФ перад прэзідэнцкімі выбарамі ў Расіі. Цяпер яны вымушаныя расплочвацца правакацыямі ды іншымі паслугамі»*.

**Пётр Краўчанка** (старшыня камісіі па міжнародных справах Вярхоўнага Савета РБ) лічыць план Ілюхіна *«палітычнай правакацыяй, накіраванай на дэстабілізацыю сітуацыі ў Беларусі»*. Краўчанка падкрэсліў, што *«калі Ілюхін сказаў, гэта не азначае, што так заявіла афіцыйная Масква. Заява Масквы — гэта заява Ельцына. Таму не трэба ставіцца да гэтага сур'ёзна»*.

У расійскім пасольстве ў Мінску нам сказалі, што *«не ведаюць, навошта бабахнуў Ілюхін»* і выказалі меркаванне, што МЗС Расіі не будзе ўмешвацца ў гэтую *«парламенцкую забаву»*.

Тушыць пажар узяўся віцэ-спікер Дзярждумы **Аляксандр Шохін**, які на прэс-канферэнцыі ў пятніцу прынёс публічнае прабачэнне дэпутатам беларускага парламента *«за інсінуацыі Віктара Ілюхіна»*. Шохін лічыць, што *«Ілюхін дамогся сваёй заявай адваротнай мэты: яўна ўбіты клін паміж парламентамі Расіі і Беларусі. Відавочна, уся гэтая шуміха высмактаная з пальца самога Ілюхіна ці, можа, з чужога, — не ведаю. Гэта ўскладняе інтэграцыйныя працэсы паміж дзвюма краінамі»*.

(Для кампетэнтных органаў: гаспадар пальца знаходзіцца, хутчэй за ўсё, у Мінску, на вул. К.Маркса, 38.)

У пятніцу 26 ліпеня амерыканскі пасол **Кенет Ялавіц** (карэспандэнт СВАБОДЫ «перахапіў» яго пасля сустрэчы са спікерам Сямёнам Шарэцкім) сказаў, што яму няма чаго дадаць да заявы Дзярждэпартамента ЗША адносна сцвярджэнняў Ілюхіна. Дзярждэпартамент назваў іх *«беспадстаўнымі, якія не заслугоўваюць ніякіх каментараў. ЗША поўнасцю падтрымліваюць суверэнітэт і тэрытарыяльную цэласнасць Беларусі, цэняць сяброўскія двухбаковыя адносіны»*.

Пра план Ілюхіна даведаліся і ў ЦРУ. У інтэрв'ю рускай службе радыё «Свабода» прэс-сакратар ЦРУ **Рычард Обарн** сказаў: *«Сама ідэя, што ЦРУ магло ўдзельнічаць у падобнай змове, — адназначная лухта. Гэта проста смехатворна. Звычайна мы не закранаем у каментарах нашай аператыўнай работы, але гэтыя абвінавачванні настолькі выходзяць за межы ўсялякіх разумных рамак, што я вырашыў зрабіць каментар»*. Прэс-сакратар ЦРУ сказаў, што не ведае чалавека Пола Гейберта, якога ў званні палкоўніка згадвае Віктар Ілюхін.

Штаб-кватэра ЦРУ распаўсюдзіла кароткую заяву, у якой гаворыцца: *«Сцвярджэнне, што ЦРУ нібыта рыхтуецца адхіліць ад улады прэзідэнта Беларусі, з'яўляецца поўным абсурдам»*.

Генерал у адстаўцы **Уільям Одам**, былы дырэктар агенцтва па нацыянальнай бяспецы ЗША, так ацаніў план Ілюхіна: «Гэта недарэчная, неверагодная выдумка. Я магу знайсці толькі два тлумачэнні: або старшыня думскага камітэта зусім безадказны і быў не ў сабе, калі выказаў гэтыя абвінавачанні, або ён рыхтуе сваю ўласную правакацыю ў расійскім парламенце, распальваючы страсці, каб рэанімаваць ідэю вяртання Беларусі пад кантроль Расіі. Чаго ЗША дасягнуць, дабіўшыся імпічменту Лукашэнкі? А гэта, як я разумею са словаў Ілюхіна, мэта ЦРУ. Вашынгтон толькі што дапамог Мінску атрымаць крэдыт Міжнароднага валютнага фонду. Дзеля чаго ЗША такім чынам будуць умешвацца ва ўнутрыбеларускія справы, рызыкуючы многім. І потым Ілюхін, магчыма, не ведае, што для правядзення такіх аперацый патрабуецца дазвол Кангрэса. Я не ўяўляю, што б адбылося, калі б такі дазвол быў дадзены. Інфармацыя трапіла б у прэсу... Скандал... І ўсё дзеля таго, каб адправіць у адстаўку беларускага прэзідэнта? Словам, усё выглядае настолькі па-дурному, што, магчыма, Ілюхіну проста больш няма чаго рабіць, як забаўляцца».

Польскі міністр унутраных справаў **Збігнеў Семянткоўскі** назваў план Ілюхіна *«бязглуздзіцай»*.

У інтэрв'ю агенцтву *PAP* міністр, начальнік кіравання справамі Рады міністраў Польшчы **Лешак Мілер** падкрэсліў: *«Лічу, што гэта хлуслівае паведамленне, якое варта разглядаць толькі як правакацыю, накіраваную на пагаршэнне адносінаў паміж Польшчай і Беларуссю»*.

Абвержанні з Беларусі, Польшчы і ЗША, аднак, толькі перакналі Віктара Ілюхіна ў «верагоднасці» ягонай інфармацыі, прадастаўленай кампетэнтнымі асобамі.

Такім чынам, «золотой петушок» у Маскве кукарэкнуў. Згубіўшы Зюганава, расійская кампартыя кінулася на выратаванне славянскага лідэра. Сваёй заявай Віктар Ілюхін практычна развязаў рукі прэзідэнту Лукашэнку і даў яму алібі. Цяпер, калі ў Мінску адбудзецца абвешчанае Ілюхіным забойства нацыянальных лідэраў, яго можна будзе спісаць на ЦРУ.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Сямёра смелых?

## *Зварот лідэраў сямі буйнейшых партый да грамадзянаў Рэспублікі Беларусь стаў, безумоўна, найярчэйшым палітычным «хітом сезона»*

Беларусы даўно прызвычаіліся, што галоўныя і самыя папулярныя ў шырокіх народных масах палітычныя мелодыі звычайна запускае прэзідэнт, а астатнія вымушаныя толькі выконваць загадзя пройгрышную ролю другіх, трэціх, дзесятых скрыпак. На гэты раз кіраўнікі вядучых партый вырашылі пераадолець свае ідэалагічныя рознагалоссі і ўзяць вышэйшую ноту — перахапіць палітычную ініцыятыву.

Фактычна ўпершыню ў сучаснай беларускай гісторыі пад адным дакументам стаяць подпісы лідэраў камуністаў і БНФ. Дарэчы, гэты немагчымы раней факт сведчыць найперш аб значнасці той пагрозы, якая прымусіла кіраўнікоў партый аб'яднацца са сваімі палітычнымі канкурэнтамі. На прэс-канферэнцыі, якую правялі ў пятніцу 26 ліпеня прадстаўнікі партый-«падпісантаў», яе ўдзельнікі не хавалі прынцыповых супярэчнасцяў паміж сабой, але імкнуліся падкрэсліць тое, што іх сёння аб'яднала. «Нас згуртавала жаданне абараніць закон і Канстытуцыю», — адзначыў **Станіслаў Багданкевіч**. «Усе мы ў адной лодцы. Нікому паасобку гінуць не хочацца», — заўважыла **Валянціна Свяцкая**, сакратар цэнтральнай рады Аграрнай партыі. «Мы не будзем лічыць, у каго большы рэйтынг. Сёння мы ўсе разам», — падкрэсліў **Юры Хадыка**.

Дарэчы, найбольш прыкметныя рознагалоссі застаюцца пераважна ў пытанні дачыненняў з прэзідэнтам. Намеснік старшыні БНФ Юры Хадыка нагадаў на прэс-канферэнцыі, што Фронт даўно заклікае да імпічменту прэзідэнта. «Мы радыя, што ідэя законнага прававога адхілення Лукашэнкі ад улады знаходзіць усё большую падтрымку ў грамадстве», — адзначыў Ю.Хадыка. Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі С.Багданкевіч таксама нагадаў, што яшчэ з першых дзён працы сесіі Вярхоўнага Савета ён заяўляў аб неабходнасці самай жорсткай канфрантацыі з любым парушальнікам закона. «Мы плануем любога правапарушальніка адхіляць ад улады і, калі трэба, саджаць у турму», — падкрэсліў С.Багданкевіч.

Аднак лідэр ПКБ **Сяргей Калякін** адзначыў, што камуністы не лічаць сёння неабходным пачынаць працэс імпічменту прэзідэнта. З іншага боку, калі праваліцца ідэя круглага стала, якую прапанавалі «падпісанты», і Лукашэнка працягне настойваць на рэферэндуме, камуністы гатовыя ўнесці альтэрнатыўны праект Канстытуцыі, дзе ўвогуле не будзе інстытута прэзідэнцтва. Камуністы, як нагадаў Калякін, заўсёды папярэджвалі, што прэзідэнцтва на Беларусі скончыцца кепска.

Пазіцыі бакоў вызначыліся, і цяпер беларускае грамадства нібы замерла ў чаканні рэакцыі выканаўчай улады. Першыя каментарыі Лукашэнкі і Мясніковіча толькі падкрэсліваюць відавочную для ўсіх рэч: ніякага «круглага стала» ім не трэба. Папераджальны ўдар па падпісантах ужо быў нанесены з Расіі — скандальнай заявай Віктара Ілюхіна. С.Калякін выказаў перакананне, што заява Ілюхіна менавіта таму з'явілася ў гэтыя дні, бо яе беларускія арганізатары і натхняльнікі ведалі пра падрыхтоўку звароту «сямёркі». «Камусьці выгадна выставіць усе партыі ворагамі прэзідэнта, а значыць — беларускага народа», — зазначыў Калякін.



*На здымку (злева направа): С.Калякін, А.Бухвостаў, М.Статкевіч, Ю.Хадыка.*

Зрэшты, гэта толькі пачатак. Наіўна спадзявацца, што Аляксандр Лукашэнка раптоўна пранікнецца ідэямі грамадзянскай згоды, падзелу ўладаў і запросіць усіх да яднання ў імя дэмакратыі і стабільнасці. Дэмакратыя ўспрымаецца ім у стылі вайсковага палітрука, дзе ідэальная Канстытуцыя ўмяшчаецца, як у армейскім анекдоце, у двух пунктах: «Пункт первый: я всегда прав. Пункт второй: если я неправ, смотри пункт 1». Такой псіхалогіі можа процістаяць толькі моцная і непахісная палітычная воля. Будзем спадзявацца, што «падпісанты» разумеюць, на што ідуць.

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

## *Дзень Незалежнасці святкаваўся ўладамі і апазіцыйна настроенай грамадскасцю сапраўды незалежна*

# Палац спорту супраць Палаца рэспублікі

Афіцыйнае святкаванне абмежавалася ўрачыстым паседжаннем у пятніцу, 26 ліпеня, якое прайшло ў стылі КПСС 80-х гадоў. Неверагодна, але факт: А.Лукашэнка выступіў з прамовай па-беларуску. Выступленне гучала вельмі натуральна, бо на гэты раз звычайнае вымаўленне прэзідэнта не супярэчыла мове, на якой ён гаварыў. Яшчэ адна цікавая рэч: у прамове з нагоды Дня Незалежнасці не атрымала асаблівага развіцця тэма беларуска-расійскага братэрства. Больш за тое, прэзідэнт неаднаразова падкрэсліваў неабходнасць выходзіць на аднолькавы ўзровень узаемаадносін з усімі суседзямі. І, здаецца, суседзі даюць для гэтага падставы. Ва ўсякім разе сярод тых, хто ў ліку першых павіншаваў «беларускага брата» з нацыянальным святам, былі кіраўнікі Польшчы, Украіны, Узбекістана, а вось прэзідэнт Расіі ў гэтым спісе не значыўся зусім. Відаць, цяпер асноўную ролю ў адносінах з Беларуссю выконвае мэр Масквы Юрый Лужкоў, які даслаў у Мінск тэлеграму са стрыманымі віншаваннямі.

Не жадаючы канчаткова саступаць ініцыятыву ў арганізацыі народнага святкавання апазіцыйным сілам, улады вырашылі паставіць сваю кропку ў гэтай справе. 26 ліпеня з'явіўся загад міністра абароны Леаніда Мальцава, у якім генерал-лейтэнант, павіншаваўшы воінаў са святам, распарадзіўся зрасходаваць частку парахавых прыпасаў на святочны феерверк. У загадзе прадбачліва не паведамлялася колькасць залпаў, каб не зневажаць свята: 15 стрэлаў, якія прагучалі ўвечары 27 ліпеня, — гэта мінімум, які красамоўна сведчыць аб адносінах уладаў да падзеі. Хаця, з іншага боку, кампетэнтныя людзі падкрэсліваюць такую дэталь: загад пра феерверк з'явіўся ў той час, калі прэзідэнт знаходзіўся ў Турцыі. Так што ў прэзідэнцкім асяроддзі, відаць, ёсць яшчэ людзі, здольныя не толькі шушукацца за вугламі, але і выходзіць з незалежнымі ініцыятывамі.

Тым часам з другога боку барыкад застаецца ўсё менш таямніц, сумненняў і супярэчнасцяў. Дэмакратычная апазіцыя згуртавалася ў памкненні ўратаваць незалежнасць. Прычым галоўная пагроза бачыцца не з нейкага канкрэтнага геаграфічнага накірунку. Незалежнасці, на думку тых, хто прыйшоў на шэсце і мітынг каля Палаца спорту, пагражаюць перш за ўсё некампетэнтнасць кіраўніка дзяржавы, ягоныя нежаданне прытрымлівацца Канстытуцыі і законаў, хваравітая прага неабмежаванай улады, што непазбежна вядзе да ўсталявання рэжыму, пры якім на дэмакратыю і сацыяльна-эканамічны прагрэс краіны не варта і спадзявацца.

Сёлета ў Мінску праводзілася нямала мітынгаў, але ні на адным з іх спектр прамоўцаў не выглядаў так шырока і аўтарытэтна, як на мітынгу ля Палаца спорту ў Дзень Незалежнасці. Вёў мітынг, у якім удзельнічала больш за 20 тысяч мінчан, Георгій Таразевіч. Выступілі Генадзь Бураўкін, Генадзь Карпенка, Станіслаў Багданкевіч, Лявон Баршчэўскі, Мікола Статкевіч, Аляксандр Дабравольскі, Валянціна Палевікова, Ніл Гілевіч, Дзмітрый Булахаў, Генадзь Грушавы, Мікалай Бабрыцкі, Алег Трусаў, Аляксандр Бухвостаў, Юрый Захаранка, Вінцук Вячорка, Юры Хадыка ды іншыя.

Разам з тым варта адзначыць не толькі колькасць выступоўцаў, але і якасць іх прамоваў. Раней высокі ўзровень аратарскага майстэрства дэманстравалі пераважна прадстаўнікі БНФ, а іншыя не надавалі ўменню гаварыць асаблівага значэння. Цяпер сітуацыя выраўнялася. Яркім лаканічным словам валодаюць амаль усе названыя вышэй лідэры, і гэта ў будучай палітычнай барацьбе можа стаць вырашальным фактарам. Бо разлічваць на Беларускае тэлебачанне або дзяржаўнае радыё дэмакратам усё ж такі асабліва не даводзіцца. І, каб заваяваць падтрымку, ім давядзецца напрамую, «жывым гукам» працаваць з выбаршчыкамі.

Шэсце і мітынг у Мінску скончыліся мірна. Нават Беларускае тэлебачанне дало рэпартаж з мітынгу. Праўда, гэты сюжэт быў засунуты ў самы канец панарамы навін, недзе паміж уборкай збожжавых і надвор'ем.

Аўтары рэпартажу, аднак, не адзначылі адну дэталь. У завулках вакол недабудаванага «саркафага» пад назвай Палац рэспублікі, што знаходзіцца насупраць рэзідэнцыі прэзідэнта, сталі дзесяткі машын з ваеннаслужачымі ўнутраных войскаў. Некалькі тысяч вайскоўцаў так і прасядзелі без размінкі мускулаў. Не было загаду.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**



### «Лукаша – за краты! Беларусь – у NATO!»

**Такі лозунг дружна скандзіравалі сталічныя дэманстранты на шэсці 27 ліпеня (а прыдумалі яго, безумоўна, у ЦРУ).**

Карысталіся папулярнасцю таксама і традыцыйныя лозунгі: «Луку — на муку», «Чемодан — вокзал — Россия» і інш. А дэлегацыя з Салігорска несла ў калоне труну з надпісам «ДЫКТАТУРА». Пасля мітынгу труну панеслі за Палац спорту, дзе ў прысутнасці нешматлікай публікі «дыктатура» была кінутая ў траншэю і пахаваная пад радасныя воклічы.




**ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ**

## Карэспандэнты СВАБОДЫ паведамляюць

### *Магілёў*

**У Магілёве замест Дня Незалежнасці мясцовая «вертыкаль» адзначала 55-ю гадавіну з пачатку фашысцкай акупацыі горада.**

Улады наладзілі народнае гулянне, вячэрні салют і, пад канец усяго, — «святочны банкет».

Мясцовыя актывісты дэмакратычнага руху адзначалі Дзень Незалежнасці. Па горадзе былі расклееныя ўлёткі, прысвечаныя святу, а на некаторых цэнтральных вуліцах дэмакраты развесілі бел-чырвона-белыя сцягі. Прыблізна сто чалавек з беларускай нацыянальнай сімволікай калонай прайшлі па цэнтральнай вуліцы Магілёва і ўсклалі кветкі да мемарыяльнага знака на месцы пахавання вядомага пісьменніка Цішкі Гартнага, закатаванага ў 1937 г. у мясцовай «псіхушцы». Усё адбывалася пад «патранажам» міліцыі, але ніякіх сутыкненняў не здарылася.

А тым часам у небе над Магілёвам некалькі гадзін лётаў верталёт з вялізным чырвоным палатном, якое на сонцы выглядала даволі злавесна і не зусім зразумела.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

### *Віцебск*

**Жыхары Віцебска, якія стаміліся ад «Славянскага базара», Дзень Незалежнасці фактычна праігнаравалі.**

Нават прадстаўнікі мясцовай філіі БНФ, атрымаўшы дазвол на мітынг каля помніка У.Караткевічу, чамусьці нічога не наладзілі ў гонар гэтага свята. Праўда, на плошчы Свабоды, дзе граў духавы аркестр, прыкладна ў 11 гадзінаў з'явіліся вядомыя ў горадзе актывісты Барыс Хамайда і Уладзімір Плешчанка. Апошні трымаў у руках амаль чатырохметровае дрэўка з бел-чырвона-белым сцягам. Але літаральна праз некалькі хвілінаў іх схапілі міліцыянты і запіхнулі ў «варанок». Тут жа быў затрыманы і Юрый Карпаў, які прывітаў міліцыянтаў маленькім бел-чырвона-белым сцяжком.

**С.ВАЛОДЗІН**

### *Гродна*

**Каля паўтысячы жыхароў Гродна ўзялі ўдзел у святочным шэсці з нагоды Дня Незалежнасці.**

Калона з бел-чырвона-белымі сцягамі свабодна прайшла па вуліцах горада, міліцыя рэгулявала рух транспарту, даючы дарогу дэманстрантам. Каля Каложскай царквы адбыўся ўрачысты мітынг.

**С.А.**

### *Наваполацк*

**У Наваполацку Дзень Незалежнасці быў адзначаны мітынгам на цэнтральным пляцы горада.**

Ініцыятарам выступіла мясцовая арганізацыя БНФ, якая атрымала дазвол ад уладаў. Пад бел-чырвона-белымі сцягамі на плошчы сабралася больш за 100 чалавек. Адзін эмацыянальны пенсіянер хацеў спыніць «варожую акцыю», аднак яго супакоіла міліцыя. Удзельнікі мітынгу прынялі зварот да Вярхоўнага Савета з патрабаваннем тэрмінова склікаць нечарговую сесію парламента для разгляду наступных пытанняў: аб палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў краіне, аб антыдзяржаўнай дзейнасці выканаўчай улады на чале з прэзідэнтам, аб скасаванні пасады прэзідэнта і вяртанні да парламенцкай рэспублікі, а таксама аб прызначэнні новых выбараў у парламент на шматпартыйнай аснове.

**Васіль КРОКВА**

### *Брэст*

**Два мінулыя выхадныя ў Брэсце грала музыка.**

Дзень Незалежнасці супаў тут са святам горада «Берасце-96».

**Б.П.**

**ШТО МАЕМ**

## Даўгі з дванаццаццю нулямі

**Па дадзеных міністэрства статыстыкі, доўг беларускіх прадпрыемстваў партнёрам з краін СНД і Балтыі складае 9,8 трыльёна рублёў.**

З другога боку, дзяржавы СНД і Балтыі завінаваціліся Беларусі за тавары, работы, паслугі 5,1 трыльёна рублёў. Прычым самыя вялікія сумы складаюць даўгі адзін аднаму Беларусі і Расіі: расіяне вінаватыя беларусам 4,26 трыльёна рублёў, беларусы расіянам — 8,95 трыльёна, або ў два разы больш. Аднак у гэтай суме доўг за пастаўлены ў Беларусь газ складае ажно 73,7%, ці 6,6 трлн. рублёў. Інакш кажучы, калі адкінуць даўгі за газ (праўда, надзеі на «нулявы варыянт» ужо няма, бадай, ні ў кога), то застанецца «толькі» 2,35 трлн. — амаль у два разы менш, чым Расія вінаватая нам.

## Калгасы з мінусам, фермеры з плюсам

**За першае паўгоддзе 1996 г. у Беларусі было выраблена сельскагаспадарчай прадукцыі на 22 трыльёны рублёў, што ў супастаўных цэнах на 4% менш за ўзровень студзеня—чэрвеня 1995 года.**

Цікава, што пры гэтым калгасы і саўгасы выдалі валавой прадукцыі на 7% менш, чым летась, а вось у прыватных фермерскіх і падсобных гаспадарках назіраецца хоць і невялікі, але прырост — на 1,7%.

## Чыгункі розныя, цана – адна

**Беларусь, Расія, Казахстан і Кыргызстан збіраюцца з 1 студзеня 1997 г. устанавіць адзіныя тарыфы на чыгуначным транспарце.**

Рашэнне аб увядзенні з 1 студзеня 1997 года адзіных тарыфаў на чыгуначныя пасажырскія перавозкі ў міждзяржаўных зносінах прынята на нарадзе прадстаўнікоў транспартных міністэрстваў гэтых краін. Праўда, пакуль невядома, якія тарыфы будуць пакладзеныя ў аснову.

Гэта — толькі першы крок у стварэнні адзінай сістэмы тарыфаў на транспарце. Да канца года павінна быць распрацаваная канцэпцыя тарыфнага рэгулявання і методыка разліку тарыфаў на ўсіх відах транспарту. Камісія па авіяцыі прадставіць свае дакументы ў жніўні, а ў верасні будзе сфарміраваная рабочая група для выпрацоўкі праекта пагаднення аб адзінай транспартнай сістэме Беларусі, Казахстана, Кыргызстана і Расіі. Для рэалізацыі канцэпцыі будзе створаны орган міждзяржаўнага рэгулявання дзейнасці транспартнага комплексу.

*БелаПАН*



# Россия: хроническое безденежье

В последнее время наблюдается несколько непривычное затишье в излияниях любви к России со стороны г-на Лукашенко. Думается, это можно объяснить не только традиционными противоречиями между убеждениями президентов двух стран и кое-какими деликатными моментами в финансировании кампании Г.Зюганова. Еще одна причина — нынешняя экономическая ситуация в России.

По мнению независимых экспертов, предвыборная кампания «поспособствовала» обострению проблем прежде всего в финансовой сфере, и несколько факторов позволяют говорить о том, что эти проблемы вряд ли быстро разрешатся после выборов. Наиболее выразительно тяжелая экономическая ситуация в России отразилась в бюджетной сфере и в банковской системе.

### Бюджет

По оценкам некоторых экспертов, доходная часть федерального бюджета России в этом году будет выполнена примерно на 50% от запланированного. Правительство направляет средства на самые неотложные нужды — заработную плату, пенсии и т.п. Ликвидация задолженности по этим статьям стала одним из наиболее важных аргументов предвыборной борьбы. Но ведь деньги не падают с неба: просто недофинансируются прочие статьи расходов российского бюджета — прежде всего капиталовложения в производство, расходы на агропромышленный комплекс, науку, здравоохранение, экологию и т.д. Однако даже такие меры не позволили ликвидировать задолженность бюджета по выплате пенсий и зарплаты. Бюджетный дефицит вышел за рамки, согласованные с Международным валютным фондом.

Соглашения с МВФ и политика борьбы с инфляцией к тому же ограничивают источники финансирования расходов бюджета — это могут быть только либо внешние, либо внутренние заимствования. Надежда на внешние займы пока не слишком оправдывает себя, особенно учитывая огромную задолженность России (на начало 1996 г. — 130 млрд. USD). Выборы уже прошли, но о выделении очередной транши кредита МВФ пока не слышно. Что касается внутренних источников — прежде всего это рынок государственных краткосрочных облигаций (ГКО), — то такой путь довольно дорого обходится государству, ведь приходится обеспечивать достаточно высокий процент по займам. К тому же облигации краткосрочные, и постоянно требуется размещать новые выпуски облигаций, сохраняя высокую доходность для покупателей. Более того, благодаря своей выгодности и надежности ГКО отвлекают средства из других секторов экономики, и система все больше напоминает МММовскую пирамиду. Падение же доверия к правительству может вызвать на этом рынке огромный кризис, который отразится на всей финансовой системе.

Официальные лица российского правительства, похоже, находятся в растерянности. Например, министр экономики Евгений Ясин признается: «Все было бы ничего, если бы не выборы. Если говорить откровенно, то мы не ожидали такого влияния избирательной кампании на экономику». В правительственных кругах пока еще жива надежда, что через некоторое время после выборов произойдет облегчение ситуации. На сегодняшний день главная задача правительства состоит в том, чтобы научиться собирать налоги. За счет усиления дисциплины и подобных мер, по оценкам представителей власти, можно увеличить поступления на 2 трлн. рублей в месяц дополнительно.

По мнению же независимых экспертов, проблема состоит в фактическом крахе финансовой политики государства, а выборы лишь вывели этот крах на поверхность.

### Банки

Бюджетный кризис дополняется и банковским. В первом квартале сокращение реальных активов банков ускорилось и составило 12,1%. Только в течение января—мая текущего года Центральный банк России закрыл 80 банков, а в списке «проблемных» — еще более 400, что составляет примерно 20% от их общего числа. Предвыборная суматоха ознаменовалась крахом некоторых крупнейших банков, например «Тверьуниверсалбанка», «Уникомбанка» и др. К тому же, по оценкам экспертов, в мае текущего года спад в финансовом секторе, основную часть которого составляют именно банки, впервые превысил спад реального сектора (промышленность, сельское хозяйство и т.п.)

Основная причина банковских проблем — невозвращение выданных промышленным предприятиям кредитов. Ожидаемая стабилизация не состоялась (в какой-то мере и по причине выборов), и предприятия не в состоянии вернуть деньги. Отток капиталов из российских банков перед выборами лишь обострил и обнажил ситуацию.

В данный момент Россия как никогда близка к состоянию финансового банкротства. Не секрет, что в такой же ситуации находится и Беларусь. Практически все проблемы, которые переживает Россия, характерны и для нас.

### Последствия могут быть печальными

Последствия сложившейся ситуации довольно опасны для России, прежде всего в политическом отношении. Как и в Беларуси, практическая невозможность ликвидации задолженности по заработной плате, недофинансирование ряда социально важных бюджетных статей являются сильнейшим стимулом роста социальной напряженности. Дальнейшее развитие промышленности невозможно при отсутствии инвестиций, а это еще более ухудшает обстановку в стране. Не следует забывать, что Зюганов набрал все-таки 40% голосов, и если реальный уровень жизни населения будет продолжать снижаться, а многие обещания Ельцина так и останутся невыполненными, то результаты выборов могут быть в некоторых отношениях переиграны. Во всяком случае Россия при сохранении своей прежней экономической и финансовой политики вряд ли сможет избежать массовых волнений.

Ситуация усугубляется еще одним, весьма специфичным для России, фактором. Проблема заключается в том, что эта страна состоит из довольно большого количества экономически неоднородно развитых регионов. В настоящей ситуации бедные области (к которым, кстати, относятся и территория «этнической России», и практически весь так называемый «красный пояс») фактически содержатся за счет более богатых регионов. Однако уровень жизни и там, и там по-прежнему остается весьма низким.

К тому же во время предвыборных поездок Ельцина по регионам многим из них (причем отнюдь не самым бедным) обещаны льготы, которые могут обойтись федеральному бюджету, по некоторым оценкам, в 1/3 его доходной части! Это однозначно может уменьшить объемы ресурсов, предоставляемых дотируемым регионам. Все это в перспективе усилит противоречия между центробежными интересами богатых и интеграционными предпочтениями бедных территорий. От остроты этого конфликта зависит дальнейшее существование России как единого государства, и перспективы выглядят весьма проблематично.

### Значение для Беларуси

Финансовый кризис, наблюдающийся в России, отражается и на белорусских предприятиях. Неплатежи за поставленную в Россию продукцию, сокращение платежеспособного спроса со стороны российских предприятий и т.п. являются последствиями кризисного развития ситуации. И похоже, что в дальнейшем эти проблемы будут лишь углубляться.

При нынешнем состоянии российской экономики ориентация на Россию и на ее рынок выглядит губительной для Беларуси. Ориентация на подобный деградирующий рынок, неплатежеспособность которого растет, — слишком дорогое удовольствие для наших предприятий, в то время как существуют намного более привлекательные и к тому же стремительно развивающиеся рынки Ближнего Востока, Латинской Америки и т.п.

В связи с этим дальнейшая политическая ориентация на Россию выглядит тем более бессмысленной. Действительно, Беларусь некоторое время использовала восточного соседа как источник льготных ресурсов и место сбыта не самых лучших (прежде всего по качеству) товаров. Однако с развитием российского рынка оба преимущества практически исчезли. Естественно, полностью отказываться от сотрудничества с Россией не имеет смысла. Но в развитии отношений, похоже, следует делать акцент не на федеральное правительство, а на регионы.

Пока же проблема состоит в том, что руководство Беларуси в нынешнем его варианте не осознает, где и в чем наша страна может получить реальную выгоду, а занимается бредовыми политическими шоу вроде славянской интеграции. Эта идея может быть для отдельных лиц весьма привлекательной, но вряд ли россияне поступятся ради «славянского братства» возможностью повысить уровень своей жизни.

**Алесь САДОВСКИЙ**

**ДЕТАЛИ**

## Вниманию «челноков»

**Правительство Российской Федерации с 1 августа 1996 г. снижает для физических лиц норму беспошлинного ввоза товаров через российскую границу с 2.000 долларов США до 1.000 USD.**

При превышении этой нормы устанавливается единая ставка таможенных платежей — в размере 30% от их таможенной стоимости, но не менее 4 ECU за кг. При этом таможенная льгота распространяется только на граждан России.

При ввозе товаров общей стоимостью более 10.000 долларов или весом более 200 кг товары облагаются в соответствии с общим порядком, предусмотренным для участников внешнеэкономической деятельности, то есть физические лица должны платить такие же пошлины и налоги, как и фирмы-импортеры.

## Польский Сейм держит дисциплину

**Сейм Польши абсолютным большинством голосов принял изменения в регламент, касающиеся исполнения депутатами своих обязанностей.**

В соответсвии с нововведениями, каждый день отсутствия без уважительной причины на заседаниях Сейма или комиссии грозит депутатам вычетом денег из заработка — до 133 злотых (около 50 долларов). Уважительными причинами считаются болезнь, уход за больным, заграничная командировка с согласия Президиума Сейма.

# Няўлоўны Мірон аб'явіўся там, дзе яго не чакалі

## *У райцэнтры Лёзна на Дзень Незалежнасці зноў з'явіліся бел-чырвона-белыя сцягі*

Адзін быў прымацаваны на вяршыню металічнай апоры высакавольтнай лініі (35 тысяч вольт), якая стаіць на гары пры ўездзе ў Лёзна з Віцебска. Другі бел-чырвона-белы сцяг лунаў высока ў паветры над шашой Віцебск—Смаленск, прымацаваны на дроце паміж металічнымі апорамі вышынёй каля 30 метраў. Сцягі віселі да 10 гадзін раніцы. Мясцовыя ўлады, міліцыя, работнікі электрасетак былі тэрмінова кінутыя на ліквідацыю «крамолы». З Віцебска нават выклікалі спецыяльную аварыйную машыну з пад'ёмнікам. На час аперацыі была адключана лінія электраперадач і перакрыты рух на шашы. Міліцыя «арыштавала» знятыя сцягі, да якіх былі прымацаваныя дзве запіскі «Мірона». У адной гаворыцца: *«Цярпенне народа наблізілася да мяжы высокай напругі. Да пары беларус лагодны, яго вельмі цяжка вывесці з раўнавагі. Але калі яго сэрца пачынаюць драпаць кіпцюрамі, калі пачынаюць адымаць апошняе, што ў яго засталося, — родную мову, перакрэсліўшы пры гэтым усю слаўную гісторыю яго гераічных продкаў, то хай ворагі зямлі Беларускай сцерагуцца, бо пачнецца халодная і разважлівая помста да канца, да перамогі. Жыве Беларусь! Мірон».*

Лёзненская міліцыя ўжо даўно шукае Мірона, які некалькі разоў вывешваў нацыянальныя сцягі на коміне раённага быткамбіната падчас вялікіх святаў. Змагаючыся з Міронам, мясцовыя ўлады загадалі зрэзаць на коміне жалезныя скобы на пяціметровай вышыні. Напярэдадні 25 сакавіка, 2 і 26 красавіка на «пасту № 1» дзяжурыла міліцыя, рабіліся засады, каб злавіць Мірона. Нават напярэдадні 22 чэрвеня оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку чакаў з'яўлення няўлоўнага Мірона. А 26 ліпеня міліцыя патрулявала горад, правярала ўсе падазроныя аб'екты і, як бачым, — дарэмна. Знаходлівы і кемлівы Мірон зблытаў міліцыі ўсе карты і ўсё ж вывесіў сцягі ў Лёзне...

Дарэчы, паслядоўнікі Мірона з'явіліся і ў Мінску. У Дзень Незалежнасці бел-чырвона-белыя сцягі залуналі ў мікрараёне Паўднёвы Захад, каля універсамаў «Паўднёвы Захад», «Таір» і гатэля «Зорка» іх вывесілі на дроце, нацягнутым паміж дзевяціпавярховымі дамамі. У Мінску сцягі ніхто не здымаў. З'явіліся нацыянальныя сімвалы і ў невялікай вёсцы Ракуцёўшчына Маладзечанскага раёна на самым высокім мясцовым збудаванні — воданапорнай вежы.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

# Пажарнае шоў

**На невялікім пляцы Антонія Тызенгаўза ў Гродне, сярод старых камяніц мясцовыя пажарныя паказалі гараджанам сваё ўмельства.**

Праўда, тэхніка ў іх была ўжо стараватая, таму часам не зусім добра працавала рассоўная лесвіца або перапыняўся струмень вады ў брандспойце. На гэтае шоў былі запрошаныя пажарнікі з суседніх краін — Польшчы і Літвы. Літоўцы толькі пахадзілі-пакрасаваліся сваёй прыгожай формай ды кукардамі з Пагоняй, пра якую нашым пажарным цяпер застаецца адно ўздыхаць. А вось палякі прывезлі і прадэманстравалі навінку — пнеўматычныя нажніцы, пры дапамозе якіх можна зрэзаць дах машыны на месцы аўтакатастрофы, каб вызваліць параненых. У нас жа дагэтуль на месца здарэння выклікаюць зваршчыкаў, што і нязручна, і займае шмат часу. А людзі, прыдаўленыя металам, тым часам гінуць.

**Антон БАЗЫЛЕВІЧ**

**СПОРТ**

# Дачакаліся!

## *Першае золата Беларусі*

*АКАДЭМІЧНАЕ ВЕСЛАВАННЕ:*
**ЗАЛАТЫ МЕДАЛЬ!**

Чатыры гады таму Кацярына Хадатовіч, у той час 20-гадовая спартсменка, дабілася права прадстаўляць СНД ў самым складаным і прэстыжным відзе веславання — у гонках лодак-адзіночак. Нечакана для многіх яна тады стала бронзавым прызёрам. Праз два гады на Гульнях добрай волі ў Санкт-Пецярбурзе яна пацвердзіла свой клас, стаўшы пераможцай. У мінулым сезоне на чэмпіянаце свету яна крышку не дацягнула да медалёў — чацвёртая. Нарэшце — Атланта. Лёгка, нібы гуляючы, Кацярына выйграе папярэдні заезд. У паўфінале, не трацячы лішніх сіл, яна прыйшла другой услед за канадкай Лаўман. У фінале барацьба разгарнулася менавіта паміж гэтымі гоншчыцамі. Хадатовіч удалося як найлепш прайсці фінішны адрэзак і выйграць больш за корпус лодкі ў грознай саперніцы. Такім чынам, Каця заваявала першы залаты алімпійскі медаль для суверэннай Беларусі.

Яе падтрымаў экіпаж «лінкора» — жаночай васьмёркі. Усю гонку нашыя дзяўчаты ішлі другімі за камандай Румыніі, крыху адставалі канадкі і амерыканкі. Ва ўпартай фінішнай барацьбе нашыя саступілі саперніцам з краіны кляновых лісцяў усяго 0,39 секунды.

Затое беларускія дзяўчаты пакінулі без прызоў гаспадынь спаборніцтваў — амерыканак. Бронзавыя ўзнагароды атрымалі Марына Знак, Наталля Стасюк, Валянціна Скрабатун, Ірына Грыбко, Тамара Давыдзенка, Наталля Волчак, Алена Мікуліч, Наталля Лаўрыненка, Аляксандра Панькіна і рулявая Яраслава Паўловіч.

*ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА:*
**МАЛА РАДАСЦІ — МНОГА СМУТКУ**

З лёгкаатлетамі мы звязвалі пэўныя спадзяванні, памятаючы пра тое, што год таму на чэмпіянаце свету ў Гётэборзе яны выступілі на рэдкасць удала (7 медалёў). Аднак у Атланце героі Гётэборга здаюць пазіцыі.

У хадзьбе на 20 км нашыя Яўген Місюля і Міхаіл Хмяльніцкі кантралявалі ход падзеяў толькі да сярэдзіны дыстанцыі. У выніку Місюля прыйшоў на фініш дзевятым, Хмяльніцкі — дванаццатым.

Непрыемна здзівіла чэмпіёнка свету ў кіданні кап'я Наталля Шыколенка. Яна толькі з трэцяй спробы выканала кваліфікацыйны нарматыў, а ў асноўных спаборніцтвах была непазнавальная — апошняе (12-е) месца з вынікам 58 м 56 см. Ланцужок непрыемнасцяў працягвалі кідальнікі молата. Яўны прэтэндэнт на золата Ігар Астапковіч застаўся толькі сёмым, Сяргей Алай — восьмым, а Аляксандр Красько не змог пераадолець кваліфікацыйны бар'ер.

Засмуцілі дзяўчаты, якія выступалі ў марафонскім бегу: ні адна з трох не трапіла ў дзесятку лепшых.

Перамогі ў гэтых відах праграмы дамагліся: у хадзьбе на 20 км — Джэферсан Перэс (Эквадор), у кіданні кап'я — Хэлі Рантанэн (Фінляндыя), у кіданні молата — Балаш Кіс (Венгрыя), у марафонскім бегу — Фатума Роба (Эфіопія). У штурханні ядра лепшым быў амерыканец Рэндзі Барнс, наш Дзмітры Ганчарук заняў дзевятае месца.

Адзіная светлая пляма на пахмурным лёгкаатлетычным небасхіле — сяміборка Наталля Сазановіч. Пераможца Кубка Еўропы гэтага года ўпершыню спаборнічала на такім высокім узроўні, але не разгубілася і заваявала срэбную ўзнагароду, саступіўшы толькі чэмпіёнцы свету Гадэ Шуца з Сірыі.

**Краіны і медалі. Пасля 9 дзён Алімпіяды.**

| | Золата | Срэбра | Бронза |
|---|---|---|---|
| 1. ЗША | 20 | 26 | 9 |
| 2. Расія | 15 | 11 | 9 |
| 3. Францыя | 12 | 6 | 12 |
| 4. Італія | 10 | 5 | 8 |
| 5. Кітай | 9 | 11 | 6 |
| 6. Германія | 8 | 11 | 18 |
| 7. Аўстралія | 7 | 7 | 15 |
| 8. Польшча | 5 | 5 | 3 |
| 9. Румынія | 4 | 4 | 4 |
| 10. Венгрыя | 4 | 3 | 5 |
| 11. Куба | 3 | 4 | 2 |
| 12. Японія | 3 | 4 | 5 |
| 13. Карэя | 3 | 4 | 2 |
| 14. Грэцыя | 3 | 3 | 0 |
| 15. Новая Зеландыя | 3 | 1 | 1 |
| 16. Ірландыя | 3 | 0 | 1 |
| 17. Турцыя | 3 | 0 | 1 |
| 18. Швейцарыя | 3 | 0 | 0 |
| 19. Канада | 2 | 6 | 6 |
| 20. Украіна | 2 | 1 | 5 |
| 21. Бельгія | 2 | 1 | 2 |
| 22. ПАР | 2 | 0 | 1 |
| 23. Беларусь | 1 | 4 | 3 |

*НАСТОЛЬНЫ ТЭНІС:*
**УСЁ ПАВОДЛЕ ПЛАНА**

Уладзімір Самсонаў і Яўген Шчацінін у парным разрадзе скончылі выступленне пасля групавога турніру, дзе яны аднойчы выйгралі і двойчы прайгралі. У адзіночным разрадзе Самсонаў перамог у трох паядынках у групе, а затым у 1/8 адолеў расіяніна Дзмітрыя Мазунова і трапіў у васьмёрку мацнейшых.

*ТЭНІС:* **ШТО ЎМЕЛІ, ТОЕ І ЗРАБІЛІ**

Наташа Зверава прайшла два кругі, абыграўшы мацнейшых сапернікаў Сабіне Апельманс (Бельгія) і Аманду Кетцэр (ЮАР), але прайсці трэцюю ракетку свету Канчыту Марцінэс ёй не ўдалося. Выбылі з турніру жаночых пар Зверава і Вольга Барабаншчыкава.

*БОКС:* **ІХ ЗАСТАЛОСЯ ТОЛЬКІ ДВОЕ**

У першым жа баі прайграў лёгкавагавік Сяргей Вастрашапкін, ды яшчэ атрымаў цяжкую траўму сківіцы і трапіў у шпіталь. Цяпер яго становішча нармальнае і ён вярнуўся ў Алімпійскую вёску. У другім баі прайграў Вадзім Мезга — кубінцу Хуану Эрнандэсу. Перавага чэмпіёна свету была бясспрэчнай — 12:2. Першы ж бой прайграў і «суперцяж» Сяргей Ляховіч.

Ад зборнай Беларусі засталіся толькі баксёр першай паўсярэдняй вагі Сяргей Быкоўскі і ягоны цёзка Дычкоў, які выступае ў першай цяжкай катэгорыі.

*ЦЯЖКАЯ АТЛЕТЫКА:*
**ЗАГАДКАВЫ ПРАВАЛ**

Вельмі няўдала выступаюць беларускія штангісты. У вазе да 76 кг Леанід Лабачоў быў 9-м, Алег Кечка — 11-м; у катэгорыі да 91 кг Уладзімір Хлуд заняў 15-е месца, Віктар Бяляцкі — 17-е.

*ДЗЮДО:*
**ПОБАЧ З МЕДАЛЁМ**

Вялікія спадзяванні былі на бронзавага прызёра чэмпіяната свету Націка Багірава. Ён здорава бароўся, выйграў чатыры схваткі, але і прайграў дзве, у тым ліку рашаючую — атлету з Манголіі. Багіраў — на пятым месцы.

**Сямён ПЛОЦ**



# Абакралі сінагогу

**У ноч з 24 на 25 ліпеня, у святы час, калі габрэі смуткуюць аб разбурэнні Іерусалімскага храма, невядомыя абакралі сінагогу ў беларускай сталіцы (Мінск, вул.Крапоткіна, 22).**

Рабаўнікі залезлі ў храм праз акно і вынеслі два скруткі Торы, напісаныя пяром на пергаменце. Галоўны рабін Беларусі Велвела Табака ацэньвае скрадзенае ў 80 тысяч долараў. Ён сказаў, што расследваннем злачынства заняўся «лепшы следчы». Ад імя іудзейскага рэлігійнага аб'яднання галоўны рабін падзякаваў міністэрству ўнутраных справаў «за супрацоўніцтва і дапамогу». Вернікі спадзяюцца, што скруткі Торы вернуцца ў сінагогу.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Пачаўся «набор у ЦРУ»

## *Магілёўскі клуб выбаршчыкаў распачаў «набор у ЦРУ»*

Як паведаміў прадстаўнік клуба Валеры Сівуха, яны пачалі выконваць даручэнне варшаўскай спецгрупы ЦРУ — той самай, пра якую расказаў вядомы расійскі камуніст Ілюхін.

Магілёўскі клуб выдаў спецыяльную анкету «члена ЦРУ», дзе патрабуецца паведаміць: «прозвішча, памер ботаў, наяўнасць вусоў, лысіны і г.д.» «Член ЦРУ» мусіць адзначыць, у якіх грошах ён хацеў бы атрымліваць ганарар за сваю працу — у амерыканскіх доларах, мангольскіх тугрыках ці беларускіх «зайцах». Акрамя таго, «члену ЦРУ» прапануецца самому вызначыць, чым ён будзе займацца: «шпіянажам, бандытызмам, ананізмам, інтэрнацыяналізмам (патрэбнае падкрэсліць)». Па словах В.Сівухі, за першыя два дні ў ЦРУ запісалася каля 50-ці магілёўцаў.

**Іван ЗАСАДА**

# Ксёндз асвяціў «опелі» і «жыгулі»

**У нядзелю 28 ліпеня пасля набажэнства ў гродзенскім Фарным касцёле ксяндзы на вуліцы пакрапілі святой вадой і асвяцілі аўтамабілі вернікаў.**

Гэта адбывалася і пасля польскамоўнай імшы, і пасля беларускамоўнага набажэнства. Абрад выконваўся з нагоды дня святога Хрыстафора — заступніка падарожных.

**С.А.**








Падпісны індэкс 63887 E-mail: edit@svaboda.minsk.by © СВАБОДА Спасылка на газету СВАБОДА абавязковая Наклад 40.000
Нумар падпісаны ў друк 29.07.96 (15.00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) ЛВ № 215 Заказ 259